ПАДАННІ СТВОРАНЫ **Б. УІЛІНГХЭМАМ**

# FABLES

ПЕРАКЛАД
НА БЕЛАРУСКУЮ МОВУ:
**АРТУР БАРАДАЧОЎ**

АФАРМЛЕННЕ:
**СЯРГЕЙ
КОЗЫРАЎ**

# 5










Франкенштэйн супраць Чалавека-Ваўка
War Stories, Part Two
BILL WILLINGHAM writer/creator
TONY AKINS penciller
JIMMY PALMIOTTI inker
Special thanks to Peter Palmiotti
DANIEL VOZZO color/seps
TODD KLEIN letters
JAMES JEAN cover art
MARIAH HUEHNER asst. editor
SHELLY BOND editor
<КЛАПАЦІЦЕСЯ ПРА **СВАЮ** ЧАСТКУ ПРАЕКТА, ДОКТАР. МАЕ ЛЮДЗІ ЗРАБІЛІ ЎСЁ, ШТО ПАТРАБАВАЛАСЯ.>
<ДОКАЗЫ СХАВАНЫ ТАМ, ДЗЕ ВОРАГ **НЯ ЗМОЖА** ІХ ЗНАЙСЦІ.>
<ПАВЕДАМЛЕННІ ПЕРАДАВАЛІ ШЫФРАМІ, ЯКІЯ, ЯК МЫ **ВЕДА-ЕМ**, ЯНЫ САПРАЎДЫ ЎЗЛАМАЛІ.>
<ПРЫНАДУ МЫ КІНУЛІ, І ЎЖО ХУТКА НАШЫ ВОРАГІ ПАВІННЫ **ЗРЭАГАВАЦЬ** НА ЯЕ.>
<НАМ ЗАСТАЕЦЦА ТОЛЬКІ ЗАПАСЦІСЯ ЦЯРПЛІВАСЦЮ.>
<І **ПАДРЫХ-ТАВАЦЦА**.>
<ТЫМ ЧАСАМ МЫ СКОНЧЫМ ЗБОРКУ МОНСТРА.>
<БАДАЙ **АРЫГІНАЛ** ЯШЧЭ МОЖА ПАСЛУ-ЖЫЦЬ АЙЧЫНЕ.>



<КАЛІ ІСТОТА БУДЗЕ ГАТОВА, ДОКТАР ВЕХСЛЕР?>
<ХУТКА, ГЕНЕРАЛ. **ХУТКА**.>
<А МАБЫЦЬ ЛЕПШ **НІКОЛІ**.>
<СВЯТЫЯ **НЯБЁСЫ**!>
<ГЭТА Ж **АМЕРЫКАНСКІ** ВАЎКАЛАК!>
<ЁН САПРАЎДЫ **ІСНУЕ**!>
<Я **ВЕДАЎ**! Я ВЕДАЎ, ШТО ЯНЫ ПАШЛЮЦЬ МЕНАВІТА ЯГО!>
<СПЫНІЦЕ АГОНЬ! ВЫ, **ІДЫЁТЫ**! ЗВЫЧАЙНЫЯ КУЛІ ЯГО **НЯ СПЫНЯЦЬ**!>
<БЯЖЫЦЕ ЗА **ДАПАМОГАЙ**! ВЫКЛІКАЙЦЕ СПЕЦЫЯЛЬНЫ АТРАД!>
<А ПОТЫМ АБШУКАЙЦЕ **ЗАМАК**! ЁН МОГ ПРЫЙСЦІ З **ІНШЫМІ** КАМАНДАС!>
<МЫ ПАВІННЫ ЗАХАВАЦЬ **ІСТОТУ**!>
<**НАЗАД**, ДОКТАР!>
<ЧАКАЙЦЕ СВАЮ **ЧАРГУ**!>
<Я ВЯРНУСЯ ДА ЦЯБЕ, ЯК ТОЛЬКІ **РАСЧЛЯНЮ** ГЭТУ ЖЫВЁЛІНУ!>
<НЕ!>



НЯ ДУМАЮ, ШТО **ДАЗВОЛЮ** ТАБЕ ГЭТА.




А ПОТЫМ ПАЧАЛАСЯ СТРАЛЯНІНА, І ТАК МЫ ЗНОЎ АПЫНУЛІСЯ НА ВАЙНЕ.
ЯНЫ ІДУЦЬ!
ПАКАЖАМ ІМ **ПЕКЛА**!
МЫ ЗАНЯЛІ ДОБРЫЯ ПАЗІЦЫІ.
ДАФІ!
КІДАЙ ГРАНА-ТЫ Ў ДЗЯРНЫ ПРАЁМ!
ПАБАЧЫМ, ЦІ АТРЫМАЕЦЦА У НАС ЗАБЛАКІРАВАЦЬ ПРАХОД!
ЗРАБЛЮ!
АЛЕ Ў ІХ БЫЛА КОЛЬКАСНАЯ І АГНЯВАЯ ПЕРАВАГА.
ЗАСЯРОДЗЬСЯ НА СВАЁЙ ЗАДА-ЧЫ, АЛФАВІТ, А Я ПРЫКРЫЮ НАШЫ СПІНЫ АД ГЭТЫХ ПАДОНКАЎ!
АДЗІН СТРЭЛ – АДЗІН ТРУП, ЗІЛМЕР.
**НАКРЫЙ** ІХ, БЭЙКЕР!
ЯК ДВА ПАЛЬ-ЦЫ, СЯРЖАНТ.
УВОГУЛЕ, ВЫ ВЕДАЛІ, ШТО БУДЗЕ ЦЯЖКА.




Мы ня мелі ніякага ўяўлення, куды дзеліся сяржант Харп ці гэты бозлі.
<ШТО ЗА..?>
УСЯГО ТОЛЬКІ Я, САЛДАТ.
СЯРЖАНТ ХАРП.
PFFFT PFFFT





Немінуча гэта абярнулася для нас дрэнна.
Лейтэнант!
Але мы вытрымалі.
Доктара!
Доктара!
Доктар загінуў, Дафі!
Спраўляйся сам!
А потым нечакана зноў з'явіўся Харп, раз'юшаны бог вайны.
Але, у рэшце рэшт, толькі смяротны.


<СТОП!>
<Я ЗАГАДВАЮ ТАБЕ!>
<СПЫНІСЯ!>
<ТАБЕ НЕ ЎЦЯЧЫ...>
<...ЧАЛАВЕК-ВОЎК!>
RRRRRRRa-aaaRRGGhh!
<ХТО НАСТУПНЫ?>
<ВЕЛЬМІ ЎРАДЖВАЕ, ЧАЛАВЕК-ВОЎК. АЛЕ, У РЭШЦЕ РЭШТ, ДАРЭМНА.>
<У АДРОЗНЕННЕ АД ТЫХ САЛДАТАЎ, ГЭТЫЯ ЗАБЯСПЕЧАНЫ ВЫКЛЮЧНА КУЛЯМІ З ЧЫСТАГА СРЭБРА.>
<СМЯРОТНА ДЛЯ ТАКІХ, ЯК ТЫ, ТАК?>
<ЗДАВАЙСЯ ЗАРАЗ ЦІ ПАМРЫ, УСЁ ПРОСТА.>
<КАНЕШНЕ, ЧАМУ Б І НЕ?>
<МЯРКУЮ, Я ЗРАБІЎ ТОЕ, ЗА ЧЫМ ПРЫЙШОЎ.>
І, НАРЭШЦЕ, СЛАБЫ ПРАМЕНЬ НАДЗЕІ – ЗАГАД ДА АДСТУПЛЕННЯ.
ХАЙ ВАШЫ ЛЮДЗІ АДСТУПАЮЦЬ ПРАЗ ТУНЭЛЬ, СЯРЖАНТ СУПІНСКІ.
ХУТКА ТУТ БУДЗЕ ШМАТ АТРАДАЎ ВОРАГА, А ПРАЗ ПАРУ ХВІЛІН ГЭТА МЕСЦА ЎЗЛЯЦІЦЬ ДА НЯБЁС.
А ЯК ЖА ВЫ?
МЫ ВЕДАЛІ, ШТО БОЛЬШ НІКОЛІ НЕ ЎБАЧЫМ ХАРПА ЖЫВЫМ.
Я ІДУ ЗА БОЗЛІ. МЫ ЗНОЙДЗЕМ ІНШЫ ШЛЯХ.
КАЛІ МЫ ВЫБЕРАМСЯ, ТО СУСТРЭНЕМСЯ Ў СПАЛЕНАЙ ГОСЦЕВАЙ ХАТЦЫ.


<Я ЛІЧУ, ВЫ ЎЖО **ЗДАГАДАЛІСЯ**, ШТО ВАША МІСІЯ БЫЛА **ХІТРАСЦЮ**, РАСПРАЦАВАНАЙ НАМІ, КАБ ЗАВАБІЦЬ ВАС СЮДЫ.>
<ДЫ НЯЎЖО?>
<О ТАК, СЭР. ВЫ СТАЛІ ДАВОЛІ **СВЯДОМЫМ**.>
<ЧУТКІ І ПЛЁТКІ ПРА ВАШЫ АДВАЖНЫЯ ПОДЗВІГІ ПА НАШ БОК ФРОНТУ РАЗНЕСЛІСЯ ПАЎСЮЛЬ. **НЯСТРЫМНЫ** КАМАНДАС, ЧАЛАВЕК-ВОЎК, ЯКІ СЕЕ ПАНІКУ І СТРАХ СЯРОД НАШЫХ СІЛ.>
<ВАША КРОЎ ЗМЯШЧАЕ Ў СЯБЕ ВІРУС **ЛІКАНТРАПІІ**.>
<АТРЫМАЦЬ З ЯГО СЫВАРАТКУ, КАБ ІНФІЦЫРАВАЦЬ ВЫБРАНЫЯ АБ'ЕКТЫ, ГЭТА ТОЛЬКІ **ПЫТАННЕ ЧАСУ**.>
<І ЦЯПЕР У НАС БУДУЦЬ **СВАЕ** ВАЎКАЛАКІ - ЦЭЛЫ **БАТАЛЬЁН**.>
<ДАСТАЎ ГЭТА Ў МАЮ ЛАБАРАТОРЫЮ АНАЛІЗУ, **ЗАРАЗ ЖА**.>
<ТАК, МЭМ.>
<ХУТКА ПЕРАДАМ ЯШЧЭ.>
<ХІБА ГЭТА НЕ **ЦУДОЎНА**, СПАДАР ВАЎКАЛАК? ВЫ ПРЫЙШЛІ СЮДЫ, КАБ ПАШКОДЗІЦЬ СТВАРЭННЮ АРМІІ ІСТОТ-БАЕВІКОЎ, І ТЫМ САМЫМ ЗАБЯСПЕЧЫЛІ НАС МАТЭРЫЯЛАМ, НЕАБХОДНЫМ **ЯКРАЗ** ДЛЯ ГЭТАГА.>
<УГУ, ФРЫЦ. Я І САМ УЛАВІЎ **ІРОНІЮ**.>
PFFFT


<НЕ, ПАЧАКАЙЦЕ, Я НЕ САЛДАТ!>
PFFFT
<У НАСТУПНЫ РАЗ ВЫБІРАЙЦЕ КАМПАНІЮ ЛЕПШ, ФРОЙЛЯН.>
<ТРЭБА БЫЛО ПАСТАВІЦЬ ПАБОЛЕЙ ВАРТЫ НЕДАЛЁКА, ГЕНЕРАЛ.>
<НАВАТ ПАСЛЯ ТАГО, ЯК ВЫ АБЯСШКОДЗІЛІ МЯНЕ.>
PFFFT
ТЫ БЫЦЦАМ ЯК КАВАЛЕРЫЯ, ХАРП, – ПРЫБЫЎ У ПАРУ.
МО-МАНТ.
ВЫЗВАЛІШ МЯНЕ?
CLUNK
ВЫГЛЯДАЕШ ЛАЙНОВА.
УСЁ ЯШЧЭ ГОРАЙ. ЯНЫ ДОБРА МЯБЕ ЗАЧАПІЛІ, БОЗЛІ.
ЛУХТА, ХАРП. Я ВЫЦЯГНУ ЦЯБЕ АДСЮЛЬ, А ПОТЫМ...
НЯМА ЧАСУ, СЯБАР.
ЗАСТАЛІСЯ СЕКУНДЫ ДА ТАГО, ЯК ГЭТА МЕСЦА ВЫБУХНЕ ЯК ВУЛКАН КРАКАТАЎ.


Я ПАСЛАЎ ВЫЖЫЛЫХ ХЛОПЦАЎ НАЗАД У ТУНЭЛЬ.
АЛЕ ГЭТА БЫЛО НЕКАТОРЫ ЧАС ТАМУ. ТЫ ЗМОЖАШ ВЫБРАЦЦА, ТОЛЬКІ ПАСПЯШАЙСЯ!
АПОШНЯЯ ПРОСЬБА, ПРЫЯЦЕЛЬ.
ШТО ПАЖАДАЕШ.
СКАЖЫ КОЖНАЙ МАЁЙ ДЗЯЎЧЫНКЕ, ШТО Ў КАНЦЫ Я РАСКАЗВАЎ ТОЛЬКІ ПРА ЯЕ.



ВОСЬ І ЗАМКА НЯ СТАЛА. ЗДАЕЦЦА, МЫ ВЫКАНАЛІ НАШУ МІСІЮ.
ВОСЬ ТОЛЬКІ НЯ ВЫЖЫЎ НІХТО З ТЫХ, ХТО Б МОГ ВЯРНУЦЬ НАС НАЗАД.
Я МАГУ ВЯРНУЦЬ ВАС НАЗАД ПРАЗ ЛІНІЮ НАШАГА ФРОНТУ.
БОЗЛІ! ТЫ **ЖЫВЫ**!
ВЫ ТРОЕ, ГЭТА ЎСЕ, ХТО ВЫЖЫЎ?
АКРАМЯ СЯРЖАНТА СУПІНСКІ. ЁН ЗАГІНУЎ, СТРЫМЛІВАЮЧЫ ФРЫЦАЎ, КАБ ТЫЯ НЕ ПАЙШЛІ ЗА НАМІ Ў ТУНЭЛЬ.
І АЛФАВІТА ТАКСАМА МОЦНА ПАДСТРЭЛІЛІ, ЯМУ НЕАБХОДНА ХУТКАЯ МЕДДАПАМОГА...
Я МАГУ ВАС ВЫВЕСЦІ І НАВАТ **ДАПАМАГЧЫ** ДАЙСЦІ ВАШАМУ ПАРАНЕНАМУ ТАВАРЫШУ, АЛЕ **ТОЛЬКІ** КАЛІ ВЫ ПАКЛЯНЕЦЕСЯ **ЖЫЦЦЯМІ** ЗАХОЎВАЦЬ МОЙ САКРЭТ.
ЯКІ **САКРЭТ**?
ТОЙ, ШТО Я САМ ЗАРАЗ **РАСКРЫЮ**.




ТАК МЫ ТРОЕ ВЫЖЫЛІ, КАБ ДАБРАЦЦА ДАДОМУ, ВЫГАДАЦЬ СЕМ'І, САСТАРЭЦЬ І НІКОЛІ ЦАЛКАМ НЕ ПАВЕДАМЛЯЦЬ ПРА ТОЕ, ШТО МЫ ЗРАБІЛІ І ШТО З НАМІ ЗДАРЫЛАСЯ.
МЫ РУХАЛІСЯ НОЧЧУ, І КОЖНЫ РАЗ ВЕЛІЗАРНЫ ВОЎК ПРАВОДЗІЎ НАС МІМА НЕБЯСПЕЧНЫХ МЕСЦАЎ.
ЧАСАМ ЁН ПАДАЛЯЎСЯ, КАБ ЛІКВІДАВАЦЬ ПАГРОЗЫ, ЯКІЯ МЫ НЕ МАГЛІ ПАЗБЕГНУЦЬ. ПАЗНЕЙ ЁН ВЯРТАЎСЯ З КРЫВЁЮ НА ПЫСЕ.
ШТО Ў ЗАПЛЕЧНІКУ, БОЗЛІ?
ВАЕННЫЯ СУВЕНІРЫ, НЕ АДЧЫНЯЙ.
ВЫ НЕ ЗБІРАЕЦЕСЯ НАС ЗАБІЦЬ І **З'ЕСЦІ**, СПАДАР ВОЎК?
НЕ, КАЛІ СПЫНІШСЯ **ЗАПЫТВАЦЬ** ГЭТА КОЖНЫЯ 15 ХВІЛІН.
ПРАЗ ПЯЦЬ ДЗЁН БОЗЛІ ПАКІНУЎ НАС, КАЛІ МЫ БЫЛІ ЎЖО ГЛЫБОКА НА НАШАЙ ТЭРЫТОРЫІ, У КРОКУ АД БРЫГАДНАЙ МЕДЫЦЫНСКАЙ ПАЛАТКІ.
І, НЯГЛЕДЗЯЧЫ НА ТОЕ, ШТО МЫ ПАВЕДАМІЛІ ЎСЁ ТОЕ, ШТО МЫ МАГЛІ ПАВЕДАМІЦЬ ПРА НАША ЗАДАННЕ, УСЁ НАСТУПНАЕ ЖЫЦЦЁ НІХТО З НАС НЕ РАСКАЗВАЎ САКРЭТЫ БОЗЛІ.


І зноў нашы дні...
Буфкін, спусціся на секунду.
Вось новая кніга на паліцу.
Думаю, ты знойдзеш ёй **належнае** месца.
Гэта я магу, гер Воўк.
А ты як сёння, Франкі?
Прабач, сябра, ты **спаў**?
Ага, але ўсё нармальна, Бозлі. Я і так зашмат сплю.
Асабліва няма чаго рабіць, але часам мухалоў, пастушок ці Буфкін **чытаюць** мне.
Я прасіў Снежку паставіць для цябе тэлевізар, але яна не згаджаецца.
Не, мы ўжо **спрабавалі** дзесьці гадоў 10 таму, да таго, як міс Снежка пачала тут кіраваць.
Гэта была **катастрофа**, Буфкін заўсёды забаўляўся з пультам, і я амаль звар'яцеў ад гэтага.
Улічваючы ўсё, у цішыні, увогуле, лепей.
Напэўна. Ёсць яшчэ што-небудзь, што я магу зрабіць для цябе?
Ну, я вельмі **жадаю піць**, Боз.
Ты ж ведаеш, што гэта **фантомная** смага. Вада проста выцячэ з тваёй шыі, і дно клеткі зноў праржавее.
Так, але...
Да пабачэння, Фрэнкі.
І табе таксама да пабачэння, Даф.
SHAWN DUFFY
1923 2004
A brave and honorable friend.
У наступным нумары:
**"Годам пазней".**
Пачынаецца новая гісторыя, Букінгем і Лэйалоа вяртаюцца.

# Гістарычная даведка

Замак Франкенштэйн сапраўды існуе (у выглядзе руін) у наваколлі Дармштадт/Эберштадт, у даліне ракі Рэйн. Пісьменніца Мэры Шэлі, як вядома, аднойчы наведала гэтыя месцы ў пошуках натхнення для напісання свайго знакамітага рамана. Замак быў у руінах нават тады, але мы вырашылі паведаміць гісторыю, адклаўшы разбурэнне замка да таго, як яго наведалі Бозлі, Харп і Сабачы Атрад. Паводле гістарычным звесткам замак сапраўды меў сакрэтны тунэль даўжынёй у мілю і вёў да сутарэння гатэля ў вёсцы Эберштадт. Мы вырашылі перамясціць гатэль на ўзгоркі для эканоміі прасторы і для таго, каб змясціць гэту гісторыю у два нумары. Фельдмаршал Вальтэр фон Рэйхенаў быў сапраўднай гістарычнай асобай і сапраўды загінуў у авіякатастрофе па дарозе ў Лейпцыг. І ўсё ж, наколькі мы ведаем, гэта не было вынікам дзеянняў агента OSS. Сяржант Харп быў адных са шматлікіх агентаў OSS, якія служылі ў тыле ворага ў час Другой Сусветнай вайны, але мы так нічога і не знайшлі пра яго сапраўдныя прыгоды. У яго было цікавае імя, імя сапраўднага смельчака і мы запазычылі яго для гэтай гісторыі. Таксама фактычна мела месца быць праграма “ваўкалак”, супрацiўленне ў апошнія дні Трэцяга Рэйха. Гэтыя ваўкалакі былі рэштай нацысткага рэжыму, шмат з іх былі таксама афіцэрамі СС, якія распрацоўвалі планы нападзення на сілы Саюзнікаў, і звычайныя немцы, якія дапамагалі ім з забойствамі. Яны сабатавалі заводы, электрастанцыі і чыгуначныя лініі. Яны падрывалі паліцэйскія ўчасткі і ўрадавыя будынкі, а таксама знішчалі творы мастацтва і антыкварыяты, якія знаходзіліся ў музеях Берліна. Канешне яны не былі ваўкалакамі ў звычайным разуменні, але ў выдуманай гісторыі “Паданняў”. Хіба магла кроў Бозлі вытрымаць разбурэнне замка Франкенштэйна для стварэння падобных істот? Калі так, то гэта гісторыя на наступны раз.

*-Біл Уілінгхэм*



І яшчэ адна вытворчая заўвага: другая частка гісторыя была крыху зменена ў сувязі з тым, што ў апошнюю хвіліну стала вядома, што іншыя гісторыі ў іншых творах ужо выкарыстоўвалі падобныя напрацоўкі. Для дадатковай інфармацыі наведайце афіцыйны сайт billwillingham.com.

*-Біл*